*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 31 (618) 20 ЖНІЎНЯ 2003 г.


## ЛІСТ

### да бацькоў навучэнцаў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа

**Шаноўныя бацькі**

Усе мы апынуліся ў надзвычайным становішчы, якое склалася ў сувязі з незаконным, злачынным знішчэннем нашага ліцэя.

Кіраўніцтва Міністэрства адукацыі выклікала нас на сустрэчы дзеля нашага працаўладкавання, але мы лічым глыбока амаральным вырашаць свой лёс, пакуль не вырашаны лёс нашых вучняў.

Да 1 верасня застаюцца спадзяванні, што тыя, хто распачаў ліквідацыю ліцэя, усё ж адумаюцца, і будзе знойдзена цывілізаванае вырашэнне гэтага канфлікту. Праўда, спадзяванні гэтыя ўжо не вельмі вялікія.

Мы, настаўнікі і кіраўніцтва, лічым, што наш ліцэй павінен жыць. Мы гатовыя і надалей асноўным сваім абавязкам лічыць заняткі з вашымі дзецьмі. Калі вы застаецеся з намі і даваяраеце нашым прафесійным якасцям, мы будзем рабіць усё магчымае, каб забяспечыць навучанне вашых дзяцей па ўсіх дысцыплінах ліцэйскага вучэбнага плану на тым узроўні, які заўсёды быў у нашым ліцэі - нават калі ўлады не будуць плаціць нам заробак і афіцыйна мы будзем лічыцца беспрацоўнымі. На гэты час у асноўным вырашана пытанне з памяшканнямі для заняткаў, знойдзена памяшканне для бібліятэкі і вырашаеца пытанне з падручнікамі і з памяшканнем для правядзення агульналіцэйскіх культурных імпрэзаў. Вядуцца пошукі матар'яльных і фінансавых сродкаў для забеспячэння вучэбна-выхаваўчага працэсу.

У склаўшайся сітуацыі мы прадбачым праблемы з атрыманнем афіцыйнай ліцэнзіі, якая дасць магчымасць выдаваць выпускнікам нашага ліцэя атэстаты аб сярэдняй адукацыі, асабліва на працягу першага года працы ў такіх умовах. Але мы працуем над пошукамі варыянтаў па вырашэнні і гэтага пытання. Адна з магчымасцяў - здача выпускных экзаменаў экстэрнам у школах па месцы вашага жыхарства, другая - паступленне ва ўніверсітэты іншых краін, якія пагодзяцца даць стыпендыі нашым выпускнікам.

Мы абавязкова павінны быць разам, каб годна прайсці праз цяжкасці і выпрабаванні, якія зноў паўсталі на шляху нашага ліцэя, і зноў перамагчы.

Сёння вырашаецца не толькі лёс нашых дзяцей, але і лёс нашай Бацькаўшчыны...

*Такі ліст **выкладчыкі і кіраўніцтва** зачыненага ліцэя адрасавалі бацькам ліцэістаў. Фактычна справа ідзе пра стварэнне прыватнага ліцэя. Магчыма гэта і выйсце. Але ёсць і адно пытанне. Чаму па-руску беларусы могуць вучыцца ў дзяржаўных установах і за кошт дзяржавы, а па-беларуску ў Беларусі беларусы павінны вучыцца ў нейкай прыватнай установе і немаведама за чый кошт? Куды глядзіць Канстытуцыйны суд?*

## Уладзіміру Арлову - 50



## *У яго кнігах – гісторыя Беларусі*

Ёсць намоленыя абразы, ёсць наслуханыя сцэны, ёсць начытаныя кнігі. Без перабольшвання можна сказаць, што такімі з'яўляюцца кнігі пісьменніка Уладзіміра Арлова, нястомнага даследчыка гісторыі Бацькаўшчыны. Здаецца нядаўна выйшлі кнігі "Адкуль наш род", "Еўфрасіння Полацкая", такія кніжкі не залежваюцца на паліцах, ужо і другое выданне з "агнём не знайсці", - трэцяе выданне "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" ў саўтарстве з Г. Сагановічам. Кнігі Ул. Арлова цівава, займальна, даступна расказваюць пра гістарычныя падзеі, які адбываліся ў Беларусі і пра знакамітыя асобы. Яны багата ілюстраваныя, шмат рэдкіх фотаздымкаў, гістарычных гравюр. Іх прыемна проста гартаць і атрымоўваць асалоду. Нядаўна пабачыла свет унікальная кніга аўтара "Краіна Беларусь", у ёй больш тысячы ста ілюстрацый, некаторыя друкуюцца ўпершыню. Гонар мець такую кнігу ў прыватнай бібліятэцы, у віленчукоў-беларусаў яна ўжо ёсць. І гэта зразумела, у Вільні кнігі Ул. Арлова чытаюць, цікавяцца яго творчасцю, і сам аўтар не раз быў у нашым горадзе, сустракаўся з суайчыннікамі: апошні раз – у Таварыстве беларускай культуры 25 сакавіка 2003 г.

Днямі шаноўнаму аўтару спаўняецца 50. Хай яшчэ доўгія гады не згасае агмень творчасці, выходзяць новыя творы, якія ўзбагачаюць беларускую духоўную скарбніцу..

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*




**Уладзімір Арлоў, Леакадзія Мілаш і Аляксей Пяткевіч 25 сакавіка 2003 года ў Вільні.**

# МАЕ АЛЬФА І АМЕГА*

*Аднойчы, яшчэ ў мінулым стагоддзі, я атрымаў на казённым бланку ліст з прапановаю тэрмінова напісаць свой жыццяпіс для кнігі аўтабіяграфіяў беларускіх літаратараў, якую, зноў жа тэрмінова, намервалася выпускаць выдавецтва "Мастацкая літаратура". "Гэтая кніга, - паведамлялася ў лісце, - дасць кожнаму магчымасць даведацца пра жыццё пісьменніка не з сухіх звестак падручнікаў і даведнікаў, а з жывога слова самога пісьменніка".*

*Але ці то знікла натхненне ў тагачаснага дырэктара "Мастацкай літаратуры" Г. Марчука, ці то ў яганага начальства ўзнік страх перад "жывым словам" пісьменнікаў, толькі абяцаная кніга так дасюль і не выйшла.*

*Затое насуперак розным перашкодам (а часам і дзякуючы ім) у Польшчы, Літве, Славакіі, Беларусі працягвалі выходзіць мае ўласныя кнігі, якія дагэтуль не выклікаюць у аўтара алергіі: "Адкуль наш род", "Сны імператара", "Краіна Беларусь", "Ордэн Белай Мышы", "Адкусі галаву вароне". Я шчаслівы, што ў іх ёсць свой чытач, які, магчыма, знойдзе для сябе штосьці цікавае і ў гэтым, яшчэ нідзе не друкаваным жыццяпісе.*

***Уладзімір Арлоў, 1 жніўня 2003 г.***

Я нарадзіўся ў год Змяі паводле ўсходняга календара і ў год смерці Сталіна паводле календара савецкага. Мой прыход на свет адбыўся пад задыякальным знакам Дзевы ў найстаражытнейшым беларускім горадзе Полацку. Гарадская радзільня ў той час знаходзілася на полацкім Верхнім замку, за нейкую сотню крокаў ад Сафійскага сабора. Якраз на Сафію і выходзілі вокны палаты, адкуль мая мама Марыя ўпершыню паказала мяне майму бацьку Аляксею. Сафійскія вежы, убачаныя няцямлівымі вачыма немаўляці, сталіся маім першым уражаннем ад навакольнага свету, і, магчыма, менавіта гэта прадвызначыла мой лёс.

Маё маленства смяялася і плакала на старадаўніх полацкіх вулачках, але пра пошукі старажытных скарбаў і лёхаў, што вядуць з полацкіх храмаў на той бок Дзвіны, пра выпрабаванні смеласці на вузенькім гзымсе вакол купала Багаяўленскага сабора, пра зламысна ўзняты ў паветра на нашых дзіцячых вачах сабор святога Стэфана, пра нашу 1-ю полацкую школу, пра першае каханне і першую здраду лепей прачытаць у маіх кнігах.

Мая мама выкладала гісторыю, бацька працаваў пракурорам. Дзякуючы суровай бацькавай прафесіі я атрымаў сваю першую мянушку – Пракурор. Так клікалі мяне ў мамінай роднай прыдняпроўскай вёсцы на Шклоўшчыне, дзе я штогод летаваў у бабулі Аўгінні.

Бабуля была ўдавой. Яе мужа, а майго дзеда Максіма Дзянісава расстралялі ў 1933-м і рэабілітавалі ў 1963-м. Маміна маці несумненна мела стасункі з загадкавымі, але наогул прыязнымі да чалавечага роду сіламі. Яна зашэптвала зубы, спыняла кроў, выводзіла мышэй і "кацiную драпу"... Спадзяюся, што нейкая частка гэтых здольнасцяў перайшла ў спадчыну да мяне, бо таемную бабуліну сілу я адчуваю і цяпер, праз сорак гадоў пасля яе адыходу ў іншы свет.

Бабуля Аўгіння адкрыла мне тое, што цяпер я называю беларускім космасам, яна была маёй першай настаўніцай: не толькі мовы, але, напрыклад, і батанікі. Яна прыводзіла мяне на поплаў ці на гумнішча, садзіла на грудок і пачынала свой урок. "Гэта здрыжнічкі, - казала яна, паказваючы мне краску ці травінку, - гэта ястрэц, вунь на выжарыне, скрыпень зацвітае, а во тут братаўка прытуліляся..."

Я атрымліваў ад бабулі і іншыя надзвычай важныя ўрокі, і дасёння імкнуся выконваць яе парады. Я не сплю, калі сядае сонца, бо бабуля вучыла, што калі заснеш з ім разам, уранні ўжо не прачнешся. Я не гляджуся апоўначы ў люстэрка, каб не растаць у ім. Я памятаю, што "нельга любіцца з дзеўкамі ў жыце і ў красках нельга", бо колькі каласоў зломіш, столькі людзей ад голаду сканае, а колькі красак звяне – столькі дзяцей на свет не народзіцца.

Пасля школы зорка лёсу прывяла мяне на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэту. Там я сустрэў сяброў, дзякуючы якім канчаткова ўпэўніўся ў тым, што я не савецкі чалавек, а – беларус, і што мая радзіма – Беларусь, а не СССР. Там сустрэўся са сваёй будучай жонкай Валянцінай, якая стане паэтэсай Валянцінай Аксак і маці маіх сыноў Рамана і Багдана.

Тады, на пачатку 1970-х, у нашай галоўнай alma mater амаль нічога беларускага, апрача назвы, ужо не заставалася. Прынамсі, у нас на гістфаку. Мы чулі, што некалі курс гісторыі Беларусі чытаўся па-беларуску, але той час ужо здаваўся нам міфалагічным. Каб уявіць узровень выкладання айчыннай гісторыі, дастаткова сказаць, што



Еўфрасіннію Полацкую наш прафесар Абэцэдарскі называў на лекцыях царкоўнай цемрашалкай. "Гісторыя Беларусі" гэтак званага "дакастрычніцкага" перыяду, якую мы вывучалі, грунтавалася на міфах, створаных расейскай гістарыяграфіяй: пра адзіную старажытнарускую народнасць, пра заваёву беларускіх земляў спачатку літоўцамі, а потым палякамі, пра адсутнасць у нашых продкаў уласнай дзяржаўнасці, пра адвечнае імкненне беларусаў уз'яднацца з рускім народам... (Дарэчы, калі напрыканцы XVIII стагоддзя мара маскоўскіх цароў нарэшце здзейснілася і Беларусь у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай "уз'ядналася" з Расійскай імперыяй, дзесяткі беларускіх вёсак атрымаў адзін з фаварытаў імператрыцы Кацярыны II граф Рыгор Арлоў. Часам мяне апаноўвае спакуса вывесці свой радавод менавіта ад яго. Канчаткова не закрэсліваючы і гэтай версіі, мушу зазначыць, што, напэўна, усё было больш банальна, бо ў роднай бацькавай вёсцы Арловы жывуць амаль у кожнай хаце.)

Але, на вялікае шчасце, у гады майго студэнцтва з'явіліся раманы, аповесці і апавяданні Уладзіміра Караткевіча. Дзякуючы ім, я пачаў адкрываць для сябе сапраўдную гісторыю Беларусі. Гэта была гісторыя, вартая еўрапейскага народа: з тысячагадовай традыцыяй дзяржаўнасці, з бліскучымі перамогамі пад Грунвальдам, Оршай і Кірхгольмам, з магдэбургскім правам у гарадах, з эпохамі Рэнесансу і Рэфармацыі, якіх, гэтаксама як і магдэбургскага права, у Расіі ніколі, на вялікі жаль, не было...

Аднойчы на студэнцкай вечарынцы сярод іншых забаў і гульняў хтосьці прапанаваў і такую: без роздуму напісаць імёны дзесяці гістарычных асобаў. Пасля гэтага конкурсу стаяў гамерычны рогат, бо найчасцей у адказах сустракаліся імёны сярэдневечных японскіх уладароў – сёгунаў. Прычына была ў тым, што ўсе мы захапляліся таленавітымі лекцыямі нашага выкладчыка гісторыі Японіі і Кітая. Але ніхто з нас, будучых выпускнікоў гістарычнага факультэта, не згадаў аніводнай выдатнай асобы з мінулага Беларусі! Яно, гэтае мінулае, не было часткаю нашай свядомасці, не ўспрымалася нават намі, студэнтамі-гісторыкамі БДУ, як неацэнная нацыянальная каштоўнасць. Гісторыя нашай зямлі не напаўняла жыццё шырокім непабытовым сэнсам, не дапамагала нам глыбей спасцігнуць сучаснасць, каб быць гатовымі да будучыні.

Тады я перажыў тое, што называюць "момантам ісціны". Мне ўпершыню так балюча адкрылася бездань нашага гістарычнага беспамяцтва. І я сказаў сабе, што як палачанін з нараджэння, як гісторык паводле адукацыі і літаратар паводле схільнасцяў я проста абавязаны змагацца з гэтым беспамяцтвам, якое ператварае народ у насельніцтва і ўрэшце пазбаўляе яго гістарычнай перспектывы.

На той час у маёй літаратурнай біяграфіі ўжо былі дэбютныя публікацыі вершаў і прозы ў студэнцкіх самвыдавецкіх альманахах "Блакітны ліхтар" і "Міла-віца". Першы выдавалі мае сябры – студэнты Наваполацкага палітэхнічнага інстытута, другі выходзіў у нас на гістарычным факультэце. Абодва альманахі былі беларускамоўныя, і ўжо гэтага хапала, каб выдаўцы і аўтары зазналі шмат непрыемнасцяў, блізка пазнаёміўшыся з супрацоўнікамі "кампетэнтных органаў".

Першая мая кніга прозы выйшла ў 1986 годзе. Назву ёй дало апавяданне "Добры дзядзень, мая Шыпшына", адным з першых чытачоў якога быў Уладзімір Караткевіч. Атрымаўшы ягоны ліст з залішне ўзнёслым водгукам на мае літаратурныя практыкаванні, я колькі дзён лётаў як на крылах. Смешна прызнацца, але апрача ўсяго астатняга я яшчэ і ганарыўся тым, што мой адрасант у адной са сваіх заўвагаў не меў рацыі. Караткевіч пісаў, нібыта жоўтыя гарлачыкі, як і белыя, нанач закрываюць свае кветкі, я ж, ствараючы апавяданне, адмыслова начаваў каля сажалкі і ўпэўніўся, што – ва ўсякім разе ў нас, на Полаччыне, - жоўтыя гарлачыкі не "засынаюць".

Трымаючы ў руках аўтарскія экзэмпляры кніжкі, я скрушліва думаў, што ўжо не пашлю яе са свайго Полацка ні Уладзіміру Караткевічу, ні Ларысе Геніюш, у якой мне не раз даводзілася бываць і аднаму, і з сябрамі – маладымі літаратарамі і гісторыкамі. Яшчэ і цяпер калі-небудзь у зімовую раніцу, не зусім прачнуўшыся, мне можа ўсцешана падумацца: перад Калядамі паеду да Бабулі. Так мы называлі Ларысу Антонаўну між сабою ў гаворках, у лістах і тэлефонных перамовах. Мне выпала несці яе труну і выступіць на пахаванні над яе магілай, пасля чаго кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў атрымала здагад выкрасліць мяне са спісу ўдзельнікаў усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў. Хачу сказаць маім невядомым "дабрадзеям" шчыры дзякуй, бо якраз у дні той маскоўскай нарады мне ўсміхнулася муза Кліо. Я сеў за стол і напісаў першае гістарычнае апавяданне "Місія папскага нунцыя". Гэта быў пачатак другой маёй кнігі, якая з'явілася ў 1988 годзе пад назваю "Дзень, калі ўпала страла".

З таго часу ў мяне выйшла дваццаць кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў і эсэ. Некаторыя з іх былі адзначаныя прэміямі і ўзнагародамі, самымі дарагімі з якіх лічу медаль Францішка Скарыны, атрыманы ў гады незалежнасці, а таксама выдавецкую прэмію імя Уладзіміра Караткевіча і прэмію імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра. Як велізарную ўзнагароду ўспрымаю і пераклады напісанага мною на асноўныя еўрапейскія, а таксама на польскую, літоўскую, эстонскую, румынскую, латышскую, украінскую, грузінскую, чэшскую, славацкую і іншыя мовы. Найбольш у гэтым сэнсе пашчасціла майму напісанаму ў 1990 годзе і прысвечанаму чарговай гадавіне БНР эсэ "Незалежнасць – гэта...", якое загучала на дваццаці мовах, і якое, на жаль, не страціла сваёй актуальнасці для нас і сёння.

На пачатку 90-х гадоў, калі кінастудыя "Летапіс" працавала на беларускую нацыянальную ідэю і мела ў гэтым дзяржаўную падтрымку, паводле маіх сцэнарыяў былі знятыя навукова-папулярныя фільмы "Еўфрасіння Полацкая", "Сімяон Полацкі", "Полацкія лабірынты". Пад назваю "Рандэву" было экранізаванае адно з маіх улюбёных гістарычных апавяданняў "Рандэву на манеўрах".

Разам з беларускай па мiх жылах бяжыць і цыганская кроў. Магчыма, з гэтае прычыны падарожжы займаюць у іерархіі маіх жыццёвых каштоўнасцяў адно з першых месцаў. Пачынаючы з 1990 года, калі нарэшце стаў "выязным", я паспеў крыху пабачыць свет, наведаўшы дзесяць краін і чатыры кантыненты. Такі ўжо я чалавек, што паўсюль, нават у Афрыцы, найперш шукаў беларусаў і Беларусь.

Я яшчэ паспеў выпіць глыток віскі з выдатнай беларускай паэтэсай Наталляй Арсенневай на амерыканскім беразе возера Антарыё, у яе доме, пад вокнамі якога на кветніку раслі нашы родныя валошкі. Паспеў пагасцяваць у пісьменніцы Аляксандры Саковіч у Кліўлендзе, а ў архівах беларускай царквы святой Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы знайшоў неапублікаваныя рукапісы Юркі Віцьбіча... Уражанні замежных вандровак сталіся асноваю кнігі эсэ "Божая кароўка зь Пятай авэню", якую беларускае Таварыства вольных літаратараў узнагародзіла сваёй прэміяй "Гліняны Вялес".

* *Нецярплівых чытачоў адразу хачу папярэдзіць, што ў канцы майго жыццяпісу пададзены яго кароткі варыянт, які існуе ў выглядзе верша з яшчэ не выдадзенай кнігі "Homo viator", што ў перакладзе з лаціны азначае "Чалавек вандроўны".*

 







Відаць, варта адзначыць, што першым маім замежным падарожжам сталася пасздка на ўрачыстасці з нагоды 570-х угодкаў Грунвальдскай перамогі, што адбываліся на тых самых палях і ўзгорках, куды Вялікі князь Вітаўт прывёў свае сорак хдаругваў, трыццаць з якіх мелі баявыя штандары з "Пагоняй".

Дадам, што вандроўкі па далёких і блізкіх краінах канчаткова пераканалі мяне: беларускія жанчыны – найпрыгажэйшыя ў свеце.

Кожная з ужо выдадзеных кніг па-свойму дарагая мне, але найдаражэйшыя, бадай, дзве: зборнік гістарычнай прозы "Пяць мужчын у леснічоўцы" і кніга навукова-мастацкіх эсэ "Таямніцы полацкай гісторыі" – маё прызнанне ў любові да роднага горада. У англічан ёсць такая прыказка: "Трэба ведаць штонебудзь пра ўсё і ўсё – пра штосьці-небудзь" Полацк, яго-ная гісторыя, - якраз тое, пра што я хачу ведаць усё. Спадзяваецца на гэта, вядома, наіўна, але, магчыма, сёння няма на свеце чалавека, які б ведаў полацкую гісторыю лепей за мяне.

Працуючы над "Таямніцамі", я даведаўся пра старажытны звычай нашых продкаў-крывічоў. Дасягнуўшы паўналецця, іх юнакі здавалі своеасаблівыя іспыты на мужчынскую сталасць. Ім трэба было пераплысці хуткую і глыбокую раку, зрабіць доўгі пешы пераход праз пушчу, упаляваць тура, а яшчэ – абавязкова ведаць сваіх продкаў да пятага калена. Хто не ведаў – не меў права звацца мужчынам. Такому чалавеку не давяралі, яго маглі наогул асудзіць на выгнанне, бо лічылася, што бяспамятны ў час небяспекі лёгка зробіцца здраднікам.

Я схапіў паперу з алоўкам і пачаў ліхаманкава маляваць сваё генеалагічнае дрэва. Першыя вынікі былі несуцяшальныя. Каб хоць збольшага аднавіць імёны сваіх продкаў, іх заняткі, адметныя звычкі і ўчынкі, я мусіў некалькі месяцаў распытваць сваякоў, углядацца ў пажоўклыя фамільныя фотаздымкі, расшыфроўваць дакументы з выцвілым атрамантам XIX стагоддзя, гартаць ацалелыя кнігі царкоўных запісаў. У выніку было напісанае эсэ "Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазбегнуць выгнання".

Нашы далёкія продкі ведалі тое, што цяпер паспяхова даказвае навука. Духоўная энергія папярэдніх пакаленняў не знікае – яна жывіць род і ўвесь народ, даваляе яму ў найцяжэйшы час выстаяць і перамагчы. Хіба выпадкова мы адчуваем гаючае ўзрушэнне каля старадаўніх сабораў і на палях слаўтых ратных перамог? Але гэтая жыццядайная энергія ўплывае не на кожнага, а толькі на таго, хто захаваў з продкамі "канал сувязі" – памяць пра іх і іхнія дзеі. Склаўшы свой радавод, я пераканаўся ў гэтым на ўласным досведзе, і таму маю права раіць усім сваім знаёмым і незнаёмым чытачам: адрадзіце старадаўні звычай у сваіх сем'ях, займіцеся складаннем радаводаў, якія будуць з гонарам працягваць вашы дзеці і ўнукі. Сёння радавод шмат у каго атрымаецца кароткім, але, паверце, усё адно адбудзецца дзіва: продкі пачнуць дапамагаць вам.

Ужо больш за дзесяць гадоў, як я пераехаў з Полацка ў Менск, але Полацк не адпускае і ніколі не адпусціць мяне. Штомесяц мне проста неабходна хоць на дзень прыехаць туды, каб падыхаць яго паветрам, каб наведаць магілы бацькоў, каб сустрэцца з сястрой Таццянай, каб яшчэ раз пераканацца, што полацкі менталітэт, пра які я пісаў, - не міф, што ён, гэты менталітэт, як сказаў у сваім вершы Рыгор Барадулін, сапраўды "ад Еўфрасінні, ад Скарыны..."

У Полацку пасля глухіх гадоў рускамоўнае нематы былі прамоўленыя і напісаныя мае першыя беларускія словы.

У Полацку я навучыўся беларускаму светабачанню, светаразуменню і светаўяўленню.

Там альфа і амега майго зямнога падарожжа.

Калі ў Марціна Лютэра запыталі, што ён будзе рабіць, даведаўшыся, што заўтрашні дзень у ягоным жыцці – апошні, ён адказаў: буду садзіць аблыні.

Калі пра апошні дзень спытаюцца ў мяне, я адкажу, што прыеду ў Полацк, на радзіму маёй душы, маёй веры і майго стаіцызму.

Апошняя з маіх выдадзеных кніг, напісаная супольна з гісторыкам Генадзем Сагановічам, называецца "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі".

А на развітанне – абзацная асабліва нецярплівым чытачам

### СПРОБА ЗАВЕРШАНАГА ЖЫЦЦЯПІСУ

***Прыйшоў на свет***
***У год Змяі***
***Паводле усходняга календара***
***І ў год смерці Сталіна***
***Паводле календара савецкага,***
***Пад знакам Дзевы,***
***У радзільні***
***Насупраць Сафійскага сабора***
***У Полацку;***
***Быў таемна ахрышчаны***
***Праваслаўным папом,***
***Якога схапіў за бараду і не адпускаў,***
***Пакуль не паказалі***
***Салодкага пеўніка на палачцы;***
***Узброіўшыся свечкай***
***І клубком бабуліных нітак,***
***У няпоўныя сем гадоў***
***Выправіўся на пошукі лёхаў,***
***Што ў часы Сцяпана Батуры***
***Злучалі гарадскія манастыры***
***І храмы;***
***З тае пары***
***Так і бадзяюся***
***Па замураваных лабірынтах,***
***Шукаючы***
***Полацкі летапіс,***
***Крыж Еўфрасінні,***
***І сумнеўную славу;***
***Памру ўлетку,***
***Калі споўніцца***
***Тысяча гадоў***
***Князю Усяславу Чарадзею;***
***Буду пахаваны***
***На полацкіх могілках***
***Святога Ксаверыя***
***Па грэка-каталіцкім абрадзе;***
***Хтосьці пакладзе***
***На цёплую зямлю***
***Букецік валошак***
***І тры гваздзікі***
***Вядомых колераў;***
***У беларускім тэксце***
***На помніку***
***Згодна з нацыянальнай традыцыяй***
***Будзе зроблена***
***Арфаграфічная памылка.***
***1 студзеня 2000 г.***

***Уладзімір Арлоў.***

*Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя "Нашага слова" шчыра віншуюць сябра ТБМ ад моманту заснавання Уладзіміра Арлова з 50-годдзем.*

*Мы жадаем яму яшчэ дзесяткаў выдатных кніг на гонар і славу Беларусі. І хоць ад арфаграфічнай памылкі на помніку не засцерагчыся, мы можам з усёй адказнасцю сцвярджаць, што лёс беларускага патрыёта дастаўся У. Арлову без усякай памылкі, а адпаведна сілам і таленту, якія зараз так патрэбны менавіта беларускаму народу.*

***Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова".***

# РОДНАЯ МОВА Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Узяцца за ручку вымушае трывога за стан беларускай мовы ў краіне.

Родная мова беларусаў зноў апынулася ў крытычным становішчы і праблема яе адраджэння набыла актуальнасць і вастрыню.

А ў якім становішчы яна была паўтара дзесятка гадоў таму, мы добра памятаем.

У тыя недалёкія часы беларуская мова была выцеснена з ужытку з усіх сфер грамадска-палітычнага жыцця; а з 60-х гадоў мінулага стагоддзя не вывучалася нават у школах. Гэта самая цяжкая страта беларускага народа, калі родная мова перастала гучаць на беларускай зямлі, сярод беларускага народа. Мова беларусаў паступова стала адміраць, што прывяло да поўнай яе страты. У беларускага народа настолькі была вытручана самасвядомасць, што ён без роднай мовы ўжо прывык жыць. Навісла пагроза знікнення беларускай нацыі з яе цудоўнай мовай: няма мовы – няма народа.

Вядомы педагог Н.Х. Весель кажа: ***"Не вучыць народ роднай мове – значыць затрымліваць узровень думкі народнай, усіх духоўных сіл народа, значыць – пакідаць людзей у заўсягдашнім дзяцінстве; калі пачнём вучыць народ не ў яго роднай мове, а ў чужой, хоць і блізкай, то зробім яшчэ горш: папсуем самабытнае развіццё народа, папсуем духоўную яго натуру."***. Як бачна, для таго, каб навучыць дзіця чужой мове і розным іншым навукам, найперш трэба развіць у ім родную мову, а потым ужо апіраючыся на вядомае, перайсці да вывучэння невядомага.

З наступленнем перабудовы грамадска палітычнага жыцця працэс адміранне беларускай мовы спыніўся. У 1991 годзе Рэспубліка Беларусь стала незалежнай дзяржавай; беларускай мове быў нададзены статус адзінай дзяржаўнай. Гэта стварыла спрыяльныя ўмовы для адраджэння роднай мовы беларусаў. Светлыя надзеі беларускага народа пачалі здзяйсняцца. Адчыняюцца беларускія школы, у рускіх школах адкрываюцца беларускія класы, у дзяржаўных установах справаводства пераводзіцца на беларускую мову. Ужо ў 1994-1995 навучальным годзе 75% школьнікаў Беларусі навучаліся на роднай мове.

Але гэты працэс адраджэння роднай мовы працягваўся зусім нядоўга, каля 5 гадоў і ніхто яшчэ не атрымаў сярэднюю адукацыю на беларускай мове.

Ужо пасля надання рускай мове статусу другой дзяржаўнай і заканадаўчага афармлення роўнасці беларускай і рускай моў родная мова беларусаў стала выцясняцца рускай.

Сферы ўжытку роднай мовы сталі звужацца. Усе дзяржаўныя ўстановы справаводства зноў перавялі на рускую мову. Сталі зачыняцца беларускія школы і беларускія класы ў рускіх школах. З кожным годам катастрафічна працягвае зніжацца колькасць вучняў, якія вучыліся на беларускай мове, і колькасць іх скарацілася з 75% у 1994-1995 навучальным годзе да 26,3% (паводле дадзеных ТБМ). І калі будзе так прадаўжацца далей – незадоўга ўсе школы зноў стануць рускамоўнымі, калі дзяржава не прыме ніякіх захадаў спыніць гэты працэс.

У некаторых рэгіёнах Рэспублікі Беларусь стварылася такая сітуацыя, што дзяржава не можа гарантаваць права выбару мовы навучання – не ўсюды маюцца беларускія школы ці класы. Ды і як дзяржава можа гарантаваць права выбару мовы навучання і выхавання і стварыць адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права грамадзянам Рэспублікі Беларусь калі вышэйшая адукацыя, сярэдняя спецыяльная адукацыя, прафтэхнавучанне вядуцца толькі на рускай мове і закончыўшы беларускую школу выпускнік не можа прадоўжыць навучанне на сваёй роднай мове.

Калі мове няма месца ў жыцці яна не можа развівацца – прыходзіць да заняпаду. А мова беларуская на працягу вякоў добра развілася: яна адна "з унікальных рэдкіх, вельмі заглыбленых моў". Нездарма вучонымі – славістамі свету беларуская мова прызнана як самая багатая, мілагучная, мяккая, сакавітая сярод іншых славянскіх моў. Мы павінны быць удзячны сваім прашчурам за тое, што яны захавалі і пранеслі праз стагоддзі гэтую цудоўную мову.

Зразумела, што мы станемся нацыяй толькі тады, калі наша мова будзе гучаць паўсюдна: на вуліцах, дома, на працы.

Чаму ж наша цудоўная мова стала зноў не ў пашане, а сферы яе прымянення так хутка звужаюцца?

Чаму не спынена ганебнае знішчэнне беларускамоўных школ і перавод дзвюхмоўных у рускія? Чаму ігнаруюцца законы аб мовах у РБ? Беларускі народ заклапочаны станам нацыянальнага адраджэння, развіцця культуры і сваёй род-най мовы і спадзяецца, што дзяржава дапаможа, прыме ўсе неабходныя захады, а дзе трэба і "уласць упатрэбіць" спыніць знішчэнне беларускамоўных школ і перавод дзвюхмоўных у рускія: законы павінны выконвацца.

З павагай

***Наско Мікалай Іванавіч, пенсіянер, ветэран працы.***

# *Ад беларускага слова ў горадзе сапраўды ўтульней*




Маляўнічае пано ў цэнтры Ліды

 

## Навіны беларускай фанаграфіі

### ТАЛЕНАВІТЫЯ ГАДАВАНЦЫ "БАСОВІШЧА"

*"RIMA" – "Праз жыццё", Беласток, 2002 "Magton"*

Тое, што на Беласточчыне любяць беларускі рок, вось ужо паўтара дзесятка гадоў пераконвае "Басовішча" – адзіны ў свеце маштабны фестываль, дзе гэтая плынь прадстаўлена найшырэйшым чынам.

Але тое, што беларускі рок нараджаецца на Беласточчыне, да гэтага часу для многіх фантастыка.

Зрэшты, нямала імёнаў адкрылі для нас аудыёвыданні "Басовішча-98", "Сэрца Эўропы in Rock" ды іншыя. Менавіта на апошнім з названых шырока загучала імя гарадоцкага гурта "RIMA" Ажно дзве кампазіцыі ("Стары млын", "Wodka") аказаліся прадвеснікамі будучага паўнафарматнага альбома "Праз жыццё", які неўзабаве выдала фірма "Magton" сумесна з "Radio Racyja" пры падтрымцы праграмы Малых грантаў Цэнтру грамадскай адукацыі "Польшча-Беларусь".

А "Музыкальная газета" слушна назвала гэты гурт гадаванцам "Басовішча", бо перш чым засвяціцца на ягонай сцэне і нават заззяць сярод ягоных лаўрэатаў, гэтыя хлопцы дзесяць гадоў наведвалі ўсе фестывальныя канцэрты і , натуральна, марылі пра ўласны зорны лёс.

Бадай, яны дасягнулі гэтага, атрымаўшы лаўры і "Басовішча", яны сур'ёзна паставіліся да сваіх фанаў і кінулі на рынак паўнафарматны альбом, які карыстаецца стабільным попытам. Для нашых даследчыкаў кружэлка "Праз жыццё" сталася ўнікальным узорам жывой беларускай прысутнасці ў мас-культуры былых нашых этнічных тэрыторыяў.

Гэта да тэзісу "народ, які занядбаў мас-культуру, не будзе мець ніякай культуры". У гэтым сэнсе альбом "Праз жыццё" гурта "RIMA" з Гарадка набывае лёсавызначальны статус.

Дый выканаўчае майстэрства хлопцаў, іхняя творчая фантазія заслугоўвае пільнай увагі. Калі гурт вясной 2002 году даў некалькі канцэртаў у менскіх клубах, тутэйшая прэса назвала яго "беларуская "SEPULTURA" з Польшчы, і ў гэтых словах няма ніякага перабольшання: дасканалыя аранжыроўкі, выразны барытон вакалу Андрэя Паплаўскага, бліскучая тэхніка гуказапісу.

Дарэчы, альбом запісваўся ў знакамітай беларстоцкай студыі "Hektr", якая доўгі час была спонсарам "Басовішча" і дзе зафіксавалі свой поспех не толькі "RIMA", але і мінскі "EXIST", гродзенскі "КальЯн" ды іншыя пераможцы фестывалю.

"RIMA" працавала ў студыі сваім традыцыйным складам: Андрэй Паплаўскі (вакал, флейта), Ігар Самойлік (гітара, вакал), Марцін Кахановіч (гітара), Раман Карповіч (бас-гітара), Андрэй Гжэсь (бубны). Прадзюсаваў выданне альбома супрацоўнік радыё "Рацыя" ў Беластоку Лукаш Стэпанюк.

Праграму альбома складае тузін арыгінальных кампазіцыяў, якія сур'ёзна даследуюць самыя розныя і вечныя пытанні жыцця: "Я ўжо прывык", "Паміраю", "Дакуль мы будзем", "Пахаваны", ды іншыя. Асаблівае значэнне мае, бадай, "Вечны Гарадок", дзе ў кантэкст маскультуры вяртаецца этнічная назва роднага мястэчка музыкаў, якая ў польская тапаніміцы (дый у савецкай гістарыяграфіі) даўно ператворана ў Грудэк:

***Мой каханы Гарадок,***
***Каб не ты, я б здох.***
***Я без цябе, як рыба без вады***
***Мы без цябе, як чэрві без зямлі.***

Канцэптуальную мастацкую аздобу васьмістаронкавага буклета выдання распрацоўваў Аляксандр Максімюк, выкарыстаўшы на тытульнай бачыне і між тэкстамі адмысловыя малюнкі Адама Стэпанюка. Прыемна, што гэтае беларускае выданне здроблена ў лепшых традыцыях польскай фанаграфіі, таму ўпрыгожыць сабой калекцыю кожнага меламана.

*Вітаўт Мартыненка.*

### ЦІ ЗНІШЧАЦЬ ФАБРЫКУ ЗОРАК?

*"Я люблю ліцэй" Мн., 2003, "Юрыдычны свет".*

Праблема беларускага ліцэя імя Якуба Коласа вядомая ў цэлай Еўропе: рэпартажы аб дзіцячых пікетах у абарону апошняй навучальнай установы краіны на нацыянальнай мове гучалі на хвалях радыёстанцый Польшчы, Чэхіі, Нямеччыны, Францыі, Швецыі... А цяпер варварскія рысы посткамуністычнага рэжыму абмяркоўваюцца нават у змесце твораў мас-культуры.

Па-шчырасці, я атрымаў гэты дыск перад самым ад'ездам на фэст "Басовішча – 2003" і не паспеў нават паслухаць, а кружэлка прадавалася ў тамтэйшым музычным кіёску. Я тады не мог даць гандляру ніякіх кансультацыяў, што гэта такое, але польскія беларусы з цікавасцю знаёміліся з экстрановым тады вадannем і набывалі яго. Аказваецца, прадзюсар Франак Вячорка няблага скарыстаў Інтарнэт для прэзентацыі альбома.

Ці ўдасца захаваць апошнюю крыніцу нацыянальнай адукацыі, ці не, гэты альбом ужо мае сваю каштоўнасць. Прынамсі гістарычную. Цяпер цяжка будзе напрасткі па-бальшавіцку хлусіць, маўляў, у нас ніхто не забараняў беларускую мову, а народ сам выбраў свой лёс.

Мультымедыйная і музычная частка дыска сведчаць пра моц нацыянальнай адукацыі, пра гарманічнае суладдзе між людзьмі, якіх стрымлівае падсвядомае адчуванне свойскасці. Тое адчуванне, якое ў Беларусі татальна вынішчана.

Зрэшты, гэтым разам пагаворsм не пра сацыяльныя аспекты альбома "Я люблю ліцэй", а пра чыста культурніцкія, музычныя.

Стваралі альбом дзеці, былыя і цяперашнія ліцаісты. Само гэта шмат пра што гаворыць. Восем песень, запісаных у студыі "Radio Racyja" (гукарэжысёр Уладзімір Сакульскі) дэманструюць выразны кампазітарскі і асабліва паэтычны патэнцыял юных талентаў. Творы Вольгі Какшынскай, Юлі Крываrот на вершы ўласныя ды Адэлі Дубавец у выкананні Насты Клімовіч, Тацяны Сёмухі, Цімоха Сянкевіча, Паўла Супаненкі ды іншых ліцэістаў гучаць зусім не горш за любую "Фабрыку зорак", хоць у прафесійную муштру юнакоў ніхто не ўкладаў такіх капіталаў і не раскручваў праз цэнтральныя тэлеканалы краіны (тут палітычная задача-раскручваць зусім іншых беларусцаў).

Усе песні дыска ("У час, калі...", "Тваё каханне", "Бывайце" ды іншыя) прысвечаны ліцэю ці якім-небудзь чынам звязаныя з ліцэйскім жыццём.

***У час, калі вецер калыша галіны,***
***І жоўтае лісце спадае на дол,***
***Калі пад дажджом вымакаюць вітрыны,***
***І восеньскі горад плыве, як паром,***
***Дзесьці сярод ночы ты расплюшчыш вочы***
***І ўбачыш зорнае неба***
***Там жыве ліцэй, там жыве любоў,***
***там жыве Беларусь***
***І водар жытняга хлеба.***

Натхняе сам юначы запал самадзейных творцаў, іхняя шчырая вера ў слушнасць абранай тэмы, правамоцнасць уласнай трактоўкі яе, падуладнасць абраных сродкаў увасаблення. Але кавер так надакучлівай для ўсіх расейскай папсы ("Фабрыка зорак") выразна насцярожвае:

***Файна, ты прыняты ў ліцэй.***
***Гэта лёс,***
***Гэта фабрыка зорак і мрой.***
***Проста, першы курс, зразумей:***
***Кожны з вас***
***Шлях да зорак абірае тут свой.***

Сэнс, безумоўна, бездакорны, але паўстае пытанне: "Што слухае ліцэіст унікальнай нацыянальнай установы?" Краіну акупавалі розныя "Рускія Радыё", а ім яшчэ і патрыёты падпяваюць. Лепш бы ўжо які "Rammstein" або "Blur" перапрацавалі... А то выходзіць, як ў анекдоце: "Што ямо, тым і спаражняемся". Праўда згодзен, што клін выбіваюць клінам, таму спадзяюся на некрыўдлівасць ліцэістаў.

*Вітаўт Мартыненка.*

# СПАС

*"Прыйшоў Спас – і лета ад нас"*
*"Надыйшоў трэцці Спас – бяры рукавіцы ў запас"*

У дахрысціянскай рэлігіі Спасу адпавядала боства, якое ўвасабляла ў сабе Дух ураджаю.

Спасаўскія святкі ў Беларусі складаюцца з трох частак: 14 жніўня – Першы, або Мядовы Спас, Макавей: 19 жніўня – Другі Спас, які называюць Вялікім, Сярэднім, Яблычным: 29 жніўня – Трэці, або Малы, Хлебны, Арэхавы.

Характар земляробчай працы зводзіўся да завяршэння ўборкі, а ў садах даспявалі яблыкі, грушы, слівы. ***"Спас – усім добры час".***

Работы хапала. Трэба было назапасіць агародніну, садавіну на ўвесь год.

У валачобных песнях Спас-помочнік хлебароба:

***"... Святы Спас***
***– старэнькі дзядок,***
***На восень судзіў,***
***жыта малаціў..."***
***"...Святы Спас, спасі нас.***
***Спасі нашу душачку..."***

У іншых матывах абрадавых песень: ***"Святы Спас жыта пасвенчаець..." "Яблыкі свеціць..."***

Пазней хрысціянства зрабіла свой уплыў на Спасаўскія святы. З 14 па 27 жніўня быў уведзены пост, які ў народзе называюць Спасаўскім, або Спажыным постам.

На Першы Спас асвячаюць мак, жанчыны пякуць з новага зерня праснакі, варэнікі, палюшкі, пірагі з макам. У беларусаў маку надавалася ахоўнае значэнне ад ведзьмакоў, таму асвечаны мак захоўвалі, як святую ваду.

Самай смачнай была мачанка з маку.

Другі Спас – галоўнае Спасаўскае свята. У гэты дзень не працавалі. Асвячалі яблыкі, грушы, мёд, а на поўдні Беларусі – насеннае жыта,

Толькі ад другога Спаса дазвалялася есці яблыкі і грушы. Лічылася, што ў жанчыны якая раней тэрміну паспрабуе садавіну, будуць паміраць дзеці.

Трэцці Спас – заканчэнне ўборачных работ.

Паўсюду асвячалі насеннае зерне. Ішоў збор арэхаў. З гэтага часу салілі і марынавалі грыбы, а раней нельга бо прападзе прадукт і праца.

Звычайна на працягу спасаўскіх дзён павінна была адбыцца "рабінавая ноч", якая вызначалася моцнай навальніцай.

***"Спас – помочнік для нас".***

***Мікола Котаў,***
***навуковы супрацоўнік НДЛ беларускага фальклору БДУ.***

# ЗЕЛЬНА

У адрозненне ад трох Спасаў праваслаўных беларусаў беларусы-каталікі святкуюць адно аналагічнае свята пад назваю "Зельна".

Да дахрысціянская свята Зельна, якое святкуецца 15 жніўня ў гонар Жытняй Бабы, прыстасавана хрысціянскае свята Узнясенне (Унебаўзяцце) Маці Божай.

Зельна паводле "матэрыяльнага афармлення" спалучае ўсе тры Спасы. Так ў букет, які афармляецца для асвячэння ў касцёле, уключаюцца макаўкі (сімвал Макавею), яблыкі (атрыбут яблычнага Спасу) і каласы (прыналежнасць Спасу хлебнага). Для прыгажосці дадаюцца кветкі. У апошнія часы, калі міліцыя вядзе вайну з макам нават у вясковых градах, на Зельну некалькі макавак усяроўна знайходзіцца.

Зельна ў добрыя старыя часы - дзень не рабочы. Разам з тым свята Зельна адсутнічае ў народных календарах святаў і абрадаў, складзеных нашымі этнографамі і фальклярыстамі, адсутнічае ў энцыклапедыі "Этнаграфія Беларусі". Слова "Зельна" адсутнічае ў Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы. Нельга сказаць, што слова "Зельна" адносяць да запазычаных, бо яно адсутнічае і ў "Слоўніку іншамоўных слоў".

На сёння простыя людзі атаясамліваюць слова "Зельна" са словам "зелле", якое з'яўляецца тут абагуленай назвай раслін увогуле. На самай справе слова "Зельна" ў дахрысціянскія часы мела некалькі іншае значэнне. "Зельны" ў старабеларускай мове абазначала "збожавы". Зельныя расліны - збожавыя расліны. Маці Божая Зельная - Маці Божая Хлебная.

Назва свята "Зельна" можа быць звязана, як з уборкай збожавых культур, так і з пачаткам сяўбы азімых. Да апошняга схіляе слова "зеленя", якое захавалася ў рускай мове і абазначае "рунь". У Ясеніна ёсць зборнік (цыкл вершаў) "Зеленя". У адрозненне ад нашага слова "Зельна" рускае слова "зеленя" ў "Руска-беларускім слоўніку" ёсць.

Безумоўна, сёння ёсць праблемы з дакладным вызначэннем колішняга каларыту гэтага свята, а таксама з аднаўленнем народных абрадаў, звязаных з ім.

Нельга не адзначыць, што Зельна гэта на сёння не толькі свята беларусаў-католікаў. На Нясвіжчыне Зельнай называецца і адзін з праваслаўных Спасаў.

Не прэтэндуючы на нейкае новае слова ў этнаграфіі, мушу заўважыць, што свята "Зельна" ў Беларусі святкуецца, слова "Зельна" ў беларускай мове ёсць, і не заўважаць іх для нашых этнографаў ужо робіцца не зусім прыстойным.

***Станіслаў Суднік.***



Зжатае поле пад Карэлічамі.

*29 ліпеня 2003 г. № 185*

**Спадару Я. У. Рыбакову**
**Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь**
**Вул. Макаёнка 9, Мінск, 220807**

**Шаноўны Ягор Уладзіміравіч!**

У Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртающца грамадзяне Беларусі, якія абураны амаль поўным знікненнем беларускай мовы з праграмаў навінаў БТ!.

Нацыянальнае тэлебачанне і, асабліва, праграмы навінаў – гэта візітоўка краіны ў сусветнай медыяпрасторы. Адсутнасць у іх эфіры нацыянальнай мовы ёсць прыніжэннем ролі беларускай нацыі ў свеце, што супярэчыць нацыянальнай ідэалогіі. Да таго ж, гэта адлюстроўвае Вашую дыскрымінацыю больш 80% нашых суайчыннікаў, якія назвалі сваёй роднай мовай беларускую па выніках перапісу 1999 г. Свядомыя крокі Вашай тэлекампаніі па вынішчэнні беларускамоўнага эфіру вядуць да духоўнага крызісу і нацыянальнай дэградацыі, за што Вы нясеце непасрэдную адказнасць перад Богам і Законам.

Грунтуючыся на нашых канстытуцыйных правах, мы патрабуем ад Вас зноў зрабіць праграмы навінаў цалкам беларускамоўнымі, а таксама прыкласці ўсе намаганні па далейшым пашырэнні беларускамоўнага вяшчання.

**Алег Трусаў, старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"**

---

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**Трусаву А. А.**

У сувязі з Вашым пісьмом на імя Прэм'ер-Міністра Рэспублікі Беларусь Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі паведамляе наступнае.

Як вядома, вызначэнне мовы навучання ў той ці іншай навучальнай установе знаходзіцца ў кампетэнцыі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. У межах сваёй кампетэнцыі Міністэрства адукацыі сістэматычна рэкамендуе ўпраўленням і аддзелам адукацыі аблрайгарвыканкамаў прымаць неабходныя меры па выкананні ведамаснай праграмы, стварэнні рэальных умоў для забеспячэння гарантаванага Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь права выбару мовы навучання. Гэтаму пытанню была нададзена асаблівая ўвага на выніковай калегіі Міністэрства адукацыі за мінулы навучальны год. Праблемы навучання на беларускай мове будуць абмеркаваны падчас правядзення **жнівеньскіх** нарад педагагічнай грамадскасці.

**В. а. начальніка**
**Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Н. П. Гаравая.**

---

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таврыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**спадару Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Па даручэнню Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Ваш зварот з нагоды афармлення пасведчанняў сацыяльнага страхавання на беларускай мове ўважліва разгледжаны Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва.

Для вядзення базы даных індывідуальных асабовых рахункаў персаніфікаванага ўліку выбрана сістэма ўпраўлення базамі даных Oracle 8, якая распрацавана фірмай Oracle Corporation. Яна найбольш поўна адказвае ўсім патрабаванням, якія ставяцца да такога ўзроўню баз даных. Oracle 8, можа падтрымліваць толькі англійскай або рускай мовамі.

Акрамя таго, для апрацоўкі рукапісных дакументаў персаніфікаванага ўліку выкарыстоўваецца тэхналогія, якая распрацавана у Расіі і дзейнічае ў аддзяленні Пенсійнага фонду Расійскай Федэрацыі па г. Маскве. У Беларусі такая тэхналогія прымяняецца ўпершыню.

Усё гэта выклікала неабходнасць запаўнення дакументаў персаніфікаванага ўліку на рускай мове.

Першапачатковая база даных будзе выдаваць інфармацыю для вырабу пасведчання сацыяльнага страхавання таксама на рускай мове.

Але па жаданню працуючых, якія маюць пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, пасведчанне на рускай мове можа быць заменена пасведчаннем на беларускай мове. Для гэтага патрэбна будзе звярнуцца ў аддзел Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльная абароны Рэспублікі Беларусь, дзе зарэгістравана прадпрыемства, на якім працуе грамадзянін.

З павагай
**Кіраўнік Фонду Л. Ц. Бачыла**

# *Па моўныя самацветы*

Выязная дыялекталагічная практыка павінна была "адшукаць" шмат старажытных лексем, выявіць характэрныя рысы гаворкі, яе адметнасць сярод іншых гаворак Віцебшчыны. Студэнцкая экспедыцыя (адна са штогадовых, якія праводзяцца кафедрай беларускага мовазнаўства ВДУ імя П.М.Машэрава з мэтай вывучэння жывой народнай мовы) была накіравана ў Талачынскі раён. Гэта адзін з яшчэ не даследаваных раёнаў.

Знаходзіць людзей у веку (пажадана сямідзесяцігадовых ці васьмідзесяцігадовых) было не вельмі проста, бо такіх засталося няшмат. У маляўнічай летняй зеляніне калолі вочы пустыя сядзібы, якія ці зусім развалiліся, ці яшчэ разваальваліся. У апавядах жа пра свае нялёгкае жыццё старыя людзі шмат казалі пра той час, калі вёскі былі вялікія, моладзь доўга гуляла на вячорках, а цяпер цішыню парушае хіба што брэх сабакі.

Людзі траплялiся розныя. Адны былі словаахотлівыя, з іншых даводзілася літаральна "выцягваць" адказы на пытанні. І шмат разоў напрыканцы размовы на сваё апошняе пытанне мы, стыдэнты, чулі адказ са шкадобаю, што год ці паўгода назад памёрла гаваркая кабета, пявуння ці прызнаная знаўца народнай медыцыны, якая магла б быць вельмі цікавай для нас.

А цікавымі былі для нас людзі сталага веку, тутэйшыя, з багатай яркай мовай. Як вядома, гаворкі не маюць выразнай мяжы. Шмат людзей было з іншых раёнаў, але яны пражылі колькі гадоў у гэтай мясцовасці, таму мова іх адрознівалася нязначна. Вельмі рознілася ад мясцовай мова так званых дачнікаў, якія маюць тут лецішчы.

Пра гэтых гарадскіх жыхароў казалі; што сваімі іх не лічаць. Таму няма каму прыйсці на змену старым, дзеці і ўнукі якіх найчасцей жывуць у горадзе. Невялікае кола людзей захоўвае тутэйшую мову, і нават калі яна існуе ў выглядзе гаворкі, каштоўнасць яе вялікая. Напрыклад: ***тутацька, вунацька, глёк, лычык, мальчэначэк, балаўка.*** Дзе ж яшчэ сустрэць такія словы? Менавіта з гаворак і падсілкоўваецца літаратурная мова. Таму такое вялікае значэнне мае іх даследаванне. Ва ўмовах адміраюня вёскі гэта надзвычай складаная і актуальная справа. Кожны год студэнты едуць на дыялекталагічную практыку каб выявіць моўныя самацветы - гаворкі. Яшчэ шэраг раёнаў не даследаваны, таму застаецца шмат працы для студэнтаў-філолагаў, якая ў будучым павінна завяршыцца выданнем дыялекталагічнага слоўніка Віцебшчыны.

***Ганна Навасельцава, студэнтка факультэта беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П.М. Машэрава.***

# Выстава "Марк Шагал і мастакі еўрапейскага авангарду"



6 ліпеня ў музеі Марка Шагала ў Віцебску ў дзень нараджэння вядомага майстра адкрылася выстава "Марк Шагал і мастакі еўрапейскага авангарду" У экспазіцыі прадстаўлена больш 40 работ такіх майстроў, як Пабла Пікаса, Анры Матлас і іншыя.

**На здымку:** супрацоўнікі музея (злева направа) Людміла Хмяльніцкая, Надзея Місюль і Юлія Сцепанец рыхтуюць экспазіцыю.

**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**

# *Конкурс*
# "Рупліўцы Беларушчыны"

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны запрашае вучняў 9-11 класаў школ, гімназій, ліцэяў, студэнтаў ВНУ і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных установ да ўдзелу ў конкурсе на лепшы мастацкі ці публіцыстычны твор (эсэ, артыкул, верш, апавяданне), прысвечаны:

**165-ым угодкам з дня народзінаў Кастуся Каліноўскага;**
**140-ым угодкам паўстання 1863 г.;**
**110-ым угодкам з дня народзінаў Максіма Гарэцкага;**
**120-ым угодкам з дня народзінаў Язэпа Лёсіка;**
**100-ым угодкам з дня народзінаў Наталлі Арсенневай.**

Працы (1-3 старонкі друкаванага тэксту памерам А-4) выслаць да 15 верасня на адрас: 220005 г. Мінск, вул. Румянцава, 13, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. На асобным лісце пазначце інфармацыю пра сябе: імя, прозвішча, месца вучобы, клас (курс), факультэт, група, адрас, тэлефон, сябрамі якіх грамадскіх арганізацый Вы з'яўляецеся, Ваш удзел у краязнаўчай рабоце.

Пераможцаў чакаюць прызы: магнітафон, кніга Ул. Арлова "Краіна Беларусь", відэа-, аўдыкасеты, кнігі і інш.

***Сакратарыят ТБМ.***

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**ПРАВОДЗІЦЬ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца***
***26 і 28 жніўня ў 18.00***
***у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

Перад прысутнымі выступіць Уладзімір Арлоў, які распавядзе пра Менск у творах беларускіх пісьменнікаў і прэзентуе свае новыя кнігі "Ордэн белай мышы" і "Адкусі галаву вароне"..

Падчас семінару Вы зможаце атрымаць кнігі пісьменніка з аўтографам аўтара. Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.

№ 31 (618) 20 ЖНІЎНЯ 2003 г. Наша слова

*Да 140-х угодкаў паўстання 1863 года*

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# РЫЦАР СВАБОДЫ

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

***Шалгуноў.*** Поскольку вы все равно не сделаете меня революционером-демократом, я терпеливо выслушаю вас по затронутому эпизоду.

***Каліноўскі.*** Заняволеныя народы праходзяць праз тры эпохі, што найвыразней знамянуюць іх вяртанне да сталага разумення ўмоў палітычнага жыцця.

Першая эпоха, адразу пасля страты незалежнасці, страшная, як тая ціша на моры, калі заслоненае крывавымі хмарамі неба грозна паглядае на цёмны і нерухомы водны абшар. Ніадкуль не бліснe праменьчык надзеі! Элементы разлажэння, якія выклікалі ўпадак народа, шумяць і гуртуюцца вакол прыгнятальніка. Недавер і роспачнае здранцвенне ахопліваюць усіх. Брат не давярае брату, і пад уплывам нікчэмнай боязі прыніжанае, спадлелае грамадства ўсё больш трапляе ў ярмо. Аднак паступова традыцыя нацыянальнай годнасці, якая захавалася ў сэрцах нямногіх, пачынае чыстым промнем свяціць сярод непрагляднай ночы няволі.

Пачынаецца другая эпоха — эпоха світанку! Паасобныя раннія ахвяры зрэдку падаюць каля гэтага благаслаўленнага светача надзеі, сілкуючы яго нявіннай пакутніцкай крывёю. Дух усё больш абуджаецца, усё вышэй уздымаецца святы агонь любові да Айчыны. Гэты праменьчык робіцца сонцам: вера ўсё мацней ажыўляе надзеі, пакутніцтва дзеля Айчыны робіцца не толькі патрэбай, але і абавязкам, гарачым імкненнем большасці, бо народ адчуў сваю віну і зразумеў, што шлях да ўваскрасення з мёртвых ідзе толькі праз Галгофу. Аднак надыходзіць пара, калі тайныя змовы і паасобныя ахвяры робіцца неадпаведнымі часу, бо ўвесь народ паверыў у свае сілы, у магутнасць свайго духу, бо адчуў, што ўсялякі бруд асеў на дно і не адважваецца ўжо беспакарана выплываць наверх.

Відаць, заззяла ўжо трэцяя эпоха — эпоха даверу, узаемнай салідарнасці, велізарнай маральнай сілы. Гэтая эпоха, як пераходная, доўга працягвацца не можа, бо ўвесь народ, паяднаны ў імя святасці сваёй справы і пад знакам адбытых пакутаў за грахі продкаў, парываецца да дзеяння, спяшаецца на барацьбу з прыгнятальнікам за сваю свабоду і незалежнасць. Які іншы народ больш за наш зазнаў крывавых выпрабаванняў, упадку і няволі? Які народ паклаў больш шчодрыя ахвяры на алтар Айчыны?.. Але нарэшце над змучаным сваім народам зіхатаўся Усявышні. Заззяў момант чыну і геройства, і ні крывавыя оргіі захопнікаў, ні ссылкі, ні шыбеніцы, ні ваенны ўціск не пахіснулі і не змогуць пахіснуць нашай веры ў перамогу!

Масква не чакала такога адпору, такой стойкасці, такой непахіснай волі, але няхай ведае, што сёння іншы народ, іншы дух, іншая стойкасць, няхай ведае, што мы не апусцім мяча, пакуль не заваюем вольнасці і свабоды. Маскоўскі бізун, што завіс над намі, доўгі час душыў кожную праяву нацыянальнага жыцця, сціскаў таксама дзеянне літаратуры. Не хапіла бізуна, увяла Масква шыбеніцы, але няхай убачаць вешальнікі, наколькі яны слабыя, бо што ж значыць сёння бізун і шыбеніца? Калі б да д'ябальскіх сваіх розумаў яны заклікалі на дапамогу ўсё пекла і прыдумалі якую-небудзь пякельную машыну, гэтага духу вольнасці і свабоды яна пагасіць ужо не здолее.

***Шалгуноў.*** Извините меня, я терпеливо слушаю вас, хоть давно должен был хлопнуть дверью, и не могу понять: или вы слепой фанатик, или неисправимый романтик или просто блаженный кликуша... Какая вольность?.. Какая свобода и независимость?! Восстание захлебнулось в большой крови обеих сторон. Оно фактически разгромлено. Косинеры сотнями идут с повинной. Десятки, многие десятки из главарей уже возведены и еще будут возведены на эшафот. Тысячи потенциальных бунтарей вывозятся и еще долго будут выводиться и вывозиться в Сибирь. Суд над вами и даже само ваше пленение парализуют всякое возможное движение черни. Наступают времена поиска выхода из создавшегося положения, некоего сосуществования враждующих сторон с перспективой на замирение.

***Каліноўскі.*** Перакананы, што ніякае супольніцтва з Масквою не магчыма. Паміж свабодай і дэспатызмам, паміж святлом і азіяцкай цемрай, паміж прынцыпам і самай заўзятай спекуляцыяй нельга і думаць пра згоду. Тут бездань, якую Масква нічым не запоўніць, тут барацьба на смерць.

***Шалгуноў.*** Ну, что ж, как говорят, вольному-воля...

***Каліноўскі.*** Не, мы не дурні, што шукаюць смерці. Раўнапраўе народнасцяў, станаў, вызнанняў — гэта імкненне, заключанае ў глыбіні сэрцаў усяго люду, імкненне моцнае, якое зрабілася моцнай воляй. Пад маскоўскім панаваннем гэтае імкненне і моцная наша воля не можа быць спатолена.

Масква пераследуе рэлігію каталіцкую, рэлігію яўрэйскую і навязвае праваслаўе; мы хочам, каб кожны шанаваў Бога, як яму кажа ўласнае сумленне.

Масква пераследуе мову польскую, беларускую, маларускую і навязвае маскоўскую; мы хочам, каб кожная мова развівалася паводле ўласнай жыццяздольнасці: і літоўская, і беларуская, і маларуская, і польская.

Масква стараецца знішчыць іншых грамадзян; мы хочам, каб кожны меў роўныя правы на ўласнасць, на службу, на працу, каб усе атрымалі і ніхто не страціў.

Таго, што хочам, чаго патрабуем, Масква нам ніколі не дала і даць не магла. Ёй гісторыя надала адзін кірунак народнага жыцця, нам другі. Разам нашыя прызначэнні здзейсніць мы не зможам. Павінны раздзяліцца для нашага і яе дабра.

Мы вычарпалі ўсе мірныя сродкі. Патрабавалі, каб цар нам даў, што нам трэба, — не даў.

Пайшлі далей і распачалі паўстанне-супраціўленне. Спявалі і маліліся да Бога, каб прывёў Маскву на одум. Але Масква была пад уладай сатаны і не слухала боскіх натхненняў, і, калі на нашых вуснах была малітва, пасылала кулі ў нашы безабаронныя грудзі.

Перайшлі да актыўнага супраціўлення. Схапіліся за косы, бо не мелі зброі; мы ваявалі толькі супраць узброеных палкоў. Беззбройных палоннікаў адпускалі маскоўскіх чыноўнікаў, што паасобку дакучалі нам па гарадах, не чапалі.

Ганебна аддзячылі яны нашай шляхетнасці і прынялі яе за слабасць. Прыслалі Мураўёва, які спазнаў нашу сілу, спазнаў, чым мы маглі б быць, калі б не спыніліся на паўмерах. Мураўёў вырашыў нас скрашыць і зламаць, знішчыць і змесці. Мэта неразумная і звярыная, палітыку і сродкі для яе абраў нялюдскія, пачварныя і разам з тым страшныя. Паўставала на шляху да гэтай мэты шчасце чалавека — ён адкінуў яго; жыццё — ён забіваў яго; маёнтак — ён знішчаў яго; павага стану або класа вышэйшага грамадства — ён змятаў яе; нарэшце, цэлы народ — ён перасяляе яго ў Сібір, у пустэчу, на катаргу!

***Шалгуноў*** *(устаўшы з зэдліка).* Отныне так и впредь будет. Настает новая, четвертая эпоха. Но об этом мы поговорим на продолжении официального следствия. Честь имею ! *(Казырае і выходзіць.)*

***Фавелін.*** А теперь – на прогулку, Константин Семенович!

***Каліноўскі.*** А на прагулку, друг мой, у мяне ўжо сілы не засталося. *(Цяжка садзіцца на ложак, бярэ люстэрка, запускае "зайчыка", доўга чакае, вымаўляе з глыбокім сумам.)* Она не отозвалась... Что теперь та прогулка... Она мне больше не отзовется... И я не успею уже подать ей весточку... в Тобольскую губернию.

### VIII

*Пакой Асобай следчкай камісіі. У крэслах, што стаяць перад сталом — Шалгуноў і Лосеў. Шалгуноў закурвае, частуе папяросай Лосева, дае яму прыкурыць ад сваёй запалкі.*

***Лосеў*** *(у працяг гаворкі).* Потом говорят, Калиновский признал, что с его арестованием мятеж неминуемо угаснет...

***Шалгуноў.*** Да, он сделал такой вывод.

***Лосеў.*** Это мне приятно, Павел Николаевич. Как никак, а он мой крестник. Ой, походил я за ним, походил...

***Шалгуноў.*** Поймать, Александр Михалыч, — это только полдела. А общаться с ним, что железные бобы есть.

***Лосеў.*** Оставьте надежды, коллега. Ничего вы от него не добьетесь.

***Шалгуноў.*** Вы так считаете?

***Лосеў.*** Интуиция подсказывает...

***Шалгуноў.*** У вас – интуиция, а у меня – приказ...

***Лосеў.*** Да, хотел спросить. Говорят, его императорское величество недовольны широкой оглаской казней, экзекуций и вообще бесчинств усмирителей в здешних местах по причине использования этих фактов Англией и Францией против России?

***Шалгуноў.*** Не слышал, что говорят, но думаю, что это именно так. Европа она и есть Европа...

***Лосеў.*** А еще говорят, что его высокопревосходительство генерал-губернатор весьма раздражен сдерживанием широкой огласки террора и торопится нагнать на аборигенов еще больше страха.

***Шалгуноў.*** Если дела обстоят именно так, как вы говорите, то поведание его высокопревосходительства весьма логично.

***Лосеў.*** И с Калиновским торопит?..

***Шалгуноў.*** Как вам сказать...

*Нечакана ўваходзіць Мураўёў. Шалгуноў і Лосеў ускокваюць з крэслаў.*

***Лосеў і Шалгуноў*** *(амаль сінхронна).* Здравия желаем, ваше высокопревосходительство!..

*Мураўёў па-таварыску падае руку аднаму, потым другому.*

***Мураўёў.*** Садитесь, господа офицеры. *(Паказвае на крэслы.)* А я на время займу место председателя Особой комиссии. *(Сядае за стол Шалгунова, гартае следчую справу.)* Может, у Павла Никонорыча, как следователя, появится ко мне некая ревность профессионала, и он в конце концов представит мне, а я представлю полевому суду материалы дела на главного мятежника.

***Шалгуноў*** *(разгублена, перапалохана).* Затягиваем с представлением, ваше высокопревосходительство, единственно в надежде исторгнуть из него искомое и, так сказать, необходимое.

***Мураўёў*** *(Лосеву).* А вы, Александр Михалыч, что так загадочно улыбаетесь?

***Лосеў.*** Я полагаю, ваше высокопревосходительство, что имеются основания оставить всякие надежды.

***Мураўёў.*** Ответственное заявление моему высокопревосходительству. *(Шалгунову.)* Полковник Лосев за сутки до арестования Калиновского предупреждал или хотел убедить меня, что это, мол, вам не беглый казак-разбойник Стенька и не мужлан Емелька. А как он вам показался, Павел Никонорич? Вы ведь не менее проницательны за Александра Михалыча...

***Шалгуноў.*** Я думаю, полковник Лосев, как профессионал высокого класса, не далек от истины, определяя личность преступника: петербургское образование, притом — юридическое, европейские связи с опаснейшими для России лицами и одержимость хотя и не трон российский занять, но дать свободу и независимость от России не только Польше, но и Северо-Западному краю в сочетании с высокими организаторскими способностями и писательским талантом...

***Мураўёў*** *(перапыняючы).* Ну, допустим, что Стенька с Емелькой тоже грамоты писали...

***Шалгуноў.*** Позволю себе заметить, ваше высокопревосходительство, что грамоты Стеньки и Емельки ни в какое сравнение не идут с инструкциями, приказами, манифестами и политической публицистикой с теоретическими разработками освободительной войны, принадлежащими Калиновскому. Он — мыслитель, публицист божьей милостью, первый настоящий национальный белорусский политический деятель!..

***Лосеў.*** Ваше высокопревосходительство, я действительно из лучших побуждений обещал вам высказать свое мнение об этой неординарной фигуре, как бы мы ее не воспринимали.

***Мураўёў.*** Извольте...

***Лосеў.*** Еще в Петербургском университете, где он верховодил в землячестве поляков, белорусов и литовцев, его называли красным апостолом. Это человек удивительных способностей действовать скрытно, осмотрительно, осторожно и в то же время смело и дерзко. Меняя свою внешность в зависимости от обстоятельств, он, имея кандидатскую степень, не гнушался любой работы, дабы быть ближе к чернолюду, к мужицкой среде.

***Шалгуноў.*** Да, ваше высокопревосходительство, это, пожалуй, один из законченных, принципиальных хлопоманов. И теперь, в неволе, он верит, что только "мужицкие плечи" поднимут Беларусь, Литву и Польшу. Допрошенные нами иные преступники, близкие к Калиновскому, в один голос отмечают, что он возвышался над другими не только самым высоким положением в Национальном правительстве, и каковое занимал в революционной организации, сколько как человек чести, справедливости, мужества и высокой силы характера.

***Лосеў.*** Его не сломил длительный голод. Более того, после принудительного голода он объявил добровольную сухую голодовку и готов был умереть и, пожалуй, умер бы, если б мы не прекратили экзекуции над его невестой.

***Шалгуноў.*** Это на его похоже. Как утверждал один из арестованных, "Каліноўскі быў адным з найшляхетнейшых" людей Литвы: образованный, чистый, полный внешнего благородства, разума и добропорядочности.

***Лосеў.*** Отсюда и авторитет, и влияние на самые широкие слои населения края.

***Шалгуноў.*** Он бесспорно предан своему делу. Человека этого нельзя ни испугать, ни сбить с толку. Красивая фигура, но искривленная чужими, не нашими влияниями...

***Мураўёў.*** Я не понимаю, вас господа! Так нам что, при жизни памятник поставить этому рыцарю с вашей подачи?!

***Шалгуноў.*** При нашей жизни, ваше высокопревосходительство, мы с вами, разумеется, повесим или, в худшем случае, расстреляем его. Но, не дай Бог, если даже в самой отдаленной перспективе Беларусь, Литва и Польша отложатся от Российской империи, Калиновскому будет воздвигнут такой достойной величины монумент, а в сердцах своих соотечественников он займет такое место, о каковом сегодня мы и помышлять не можем.

***Мураўёў.*** До вашей мрачной перспективы Россия сделает все ей доступное, чтобы в глазах аборигенов их национальный герой, их рыцарь свободы превратился в монстра, людоеда, кровожадного вампира-демагога, презренного католика, польскую креатуру на славянско-православном Северо-Западе России. Его русифицированные соотечественники будут пугать им своих детей как дьяволом, если имя его совсем не сотрется из их памяти, что тоже было бы предпочтительнее. Или вы подумали, что у Муравьева-вешателя в той самой вашей пугающей перспективе не будет последователей?!.

А теперь *(устае з-за стала)* вы, Александр Михалыч, нас покиньте, а я вместе с Павлом Никанорычем подивлюсь на новоявленного апостола...





*Адказыраўшы, Лосеў выходзіць. Мураўёў хаваецца за парц'еру. Шалгуноў займае сваё месца, звоніць у званок. Увахозяць і садзяцца за свае сталы Сямёнаў і Гогель. Паліцмейстар прыводзіць Каліноўскага і становіцца вартаўніком за яго спіною.*

***Каліноўскі*** *(добразычліва)*. Добрага вам дня, панове члены і старшыня Асобай камісіі.

***Шалгуноў.*** Желаем здравия, гражданин подследственный. Продолжим работу. Господин поручик, прошу вас...

***Гогель.*** Следствие располагает "Инструкцией для военных начальников". В ней говорится *(зачытвае)*: "Усе сродкі знішчэння варожых сіл добрыя і павінны быць ужыты... Сурова караць вядомых прыхільнікаў, асабліва тых, хто прычыніўся да рэкруцкага набору".

Вторая, "Повстанческая инструкция", гласит: "Кожны камандзір асобнага паўстанцкага атрада, пакуль не звяжацца з начальнікам ваяводства, з'яўляецца неабмежаваным уладаром мясцовасці, якую ён займае, панам жыцця і смерці ўсіх сваіх падданых. У кожным пільным выпадку сам цалкам вырашае ўсе пытанні, маючы на ўвазе толькі галоўныя прынцыпы, устаноўленыя Нацыянальным урадам. Камандзір атрада мае права выносіць неадкладныя прысуды выяўленым здраднікам, шпіёнам, а таксама асобам, што супрацьдзейнічаюць яго распараджэнням... Маскоўскую паліцыю нішчыць усімі спосабамі... Найбольш вядомых прыгнятальнікаў сялян, для прыкладу, сабраўшы народ, судзіць ваенным судом і караць смерцю..."

***Каліноўскі.*** Але не дапускаючы самавольнай расправы. А па "Загаду да народу зямлі Літоўскай і Беларускай", дарэчы, патрабавалася, калі дзе маскаль быў дурны ды даў мужыкам стрэльбы, то парада была, у ночы закалоўшы салдатаў маскоўскіх, у лес уцякаць, бо гэта лепш будзе за ўсё. Міліцыі і каравулаў, узброеных маскалямі, па сёлах каб ніякіх нідзе не было, бо калі зловім каго ў каравуле або ў міліцыі, то, калі не цяпер, то пазней, без адгаворкі павесім".

***Шалгуноў.*** Стало быть вы не отрицаете авторство процитированных вам инструкций и приказов?

***Каліноўскі.*** Не толькі не адмаўляю, але і гатовы матываваць іх неабходнасць сваёй адозвай да народа пра ўзмацненне рэвалюцыйнага тэрору, якой Асобая камісія, відаць, не мае пад рукою. *(Цытуе па памяці.)* "Калі расійскі дэспатызм патрабуе ад сваіх нявольнікаў безумоўнага падпарадкавання шалёным сваім загадам і за іх невыкананне карае суровымі пераследаваннямі, то як жа Нацыянальны ўрад павінен паступіць са сваімі адступнікамі? Што скажа грамадства, які прыгавор выкажа яму патомства?.. Нацыянальны ўрад, моцны сваёй любоўю да Айчыны, моцны сваёй стойкасцю, знойдзе надзейныя сродкі для выканання строгіх сваіх прысудаў, справядлівых, як голас народа, няўмольных, як справядлівасць, якая абражаецца віноўнікамі".

***Шалгуноў.*** Мы здесь, в комиссии, достаточно наслушались наглых заявлений мятежников, но ваши циничные рассуждения о терроре нас просто шокируют.

***Каліноўскі.*** Не толькі мы, рэвалюцыйныя дэмакраты Польшчы, Беларусі і Літвы, а ўся цывілізаваная Еўропа шакіраваны тэрорам генерала-вешальніка, які ўсё сваё жыццё ніколі не ішоў у кірунку сваіх пераканянняў, якіх у яго ніколі і не было, а заўсёды ішоў у напрамку палітычнага спадарожнага ветру, які лісліўў, кланяўся, выкручваўся, прыніжаўся ўсялякім чынам, які ведаў толькі ўладалюбства і прагнасць, які нарэшце быў абвінавачаны ў бязмежным казнакрадстве і спісаны царом у адстаўку і тым жа царом быў прызначаны нам у якасці крывавага ката. Хіба гэта не цынізм... царскі?!

*Нешта моцна грукае за парт'ерай. Відаць, ломіцца крэсла пад Муравьевым.*

***Шалгуноў*** *(амаль істэрычна)*. За-мол-чите!

***Каліноўскі.*** Абавязкова абяцаю змоўкнуць, але ўсё ж заўважу, што рэпрэсіўнай, тэрарыстычнай палітыцы царскай улады мы супрацьпаставілі моцныя, прадуманыя дзеянні рэвалюцыйнай арганізацыі і рэвалюцыйнага тэрору.

Мы ў вайну з вамі ўступілі, панове акупанты, суровую і бязлітасную. А крывавую праграму, пазначаную рукой Вешальніка, ягоныя апрычнікі выконваюць у нас і па ўсім краі аж занадта дакладна.

***Сямёнаў.*** На войне, как на войне! Без сентиментов. Хотя от подследственного Якуба Гейштара — председателя Отдела управления правинциями Литвы – наслышаны не только о вашей сентиментальности, но и о "шляхетности". Поручик Гогель, зачитайте нам фрагмент допроса.

***Гогель*** *(зачытвае)*. "Напярэдадні падпісання смяротнага прысуду маршалку шляхты Дамейку прыходзіць Малахоўскі і гаворыць: "Маю надзейнага чалавека не з жандармерыі, а які сам добраахвотна, адчуваючы моцную патрэбу, бярэцца выканаць вырак". Каліноўскі пытаецца, хто гэта такі. Калі Малахоўскі назваў імя, мне незнаёмае, адказвае: "За гэтага я ручаюся, што выканаў бы, але мы не можам даць на гэта дазвол". Малахоўскі пытаецца: "Чаму?" Каліноўскі гаворыць: "У яго жонка і некалькі чалавек дзяцей, а ў нас для выканання выракаў ёсць жандармы". Тады я падышоў да Каліноўскага і сардэчна яго расцалаваў са словамі: "А мой жа ты шляхціц дарагі!" Збянтэжаны Каліноўскі пытаецца, у чым справа. А я пад смех усіх калегаў, смех сардэчны і поўны сімпатыі да Каліноўскага, тлумачу, што гэтую слабасць, або хутчэй шляхетнасць сэрца, у якой ён увогуле абвінавачвае шляхту, ён і сам мае ў высокай ступені, калі тая акалічнасць, што ў чалавека сям'я, утрымлівае ад таго, каб пасланць яго на ахвяру".

***Шалгуноў.*** Какую идилию может порадить кровавая революция!.. Это действительно имело место?

***Каліноўскі.*** Не памятаю, але быць магло.

***Сямёнаў.*** И вы не пожалели двух молодых кинжальщиков, которые были повешены нами за попытку убить Домейку?

***Каліноўскі.*** Я не пашкадаваў здрадніка Дамейку, а перад загінуўшымі маімі кінжальшчыкамі схіляю галаву... Край наш ператвораны ў суцэльны лагер супрацьву. І калі косы нашы не схіляліся для міласці, а крывавымі знакамі пісалі на маскоўскіх карках вечную нязгоду з царызмам, і калі перад яго вачыма знікала апошняя ідылія ўлады ў забраным краі, цар выдаў лозунг знішчэння. Не можа ўтрымаць забранага краю — дык у абвешчанай яму помсце хоча знішчыць у ім нашы маральныя сілы. Шле загад знішчэння ўсіх адукаваных пластоў нацыі, а паколькі сёння яму не хапае на гэта сабраных ордаў, спрабуе стварыць аддзелы з нашага простага люду, каб яны забівалі сваіх паўстаўшых суайчыннікаў. Дык што ж вы, панове, маеце супраць нашых трыбуналаў і нашых кінжальшчыкаў?!

***Сямёнаў.*** Передо мною "Мужыцкая правда". Здесь вы говорите мужику: "Для цябе ўсё можна: нож, сякера, атрута". Это что, вседозволенность от известного "цель оправдывает средство"?

***Каліноўскі.*** Не, я сказаў толькі: для цябе ўсё можна... бо табе нічога не можна. І яшчэ я сказаў: а калі народы заграні́чныя, з дзіва раззявіўшы рот, скажуць: "Шалёныя", ты, Народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы, што яны таму прычынай, што гэта на іх сумленне цяжкім грахом ляжа... за абяцаную дапамогу.

***Шалгуноў.*** На заграницу надеялись, а своё дворянство уничтожали...

***Каліноўскі.*** Не мерайце нас уласнай подласцю! Мы, рэвалюцыянеры-дэмакраты, як я ўжо казаў, верылі і верым, што толькі мужыцкія плечы пакуль і ўздымуць наш край, а шляхціцы, па вашаму паны-дваране, здрадзілі справе рэвалюцыі ўжо на яе пачатку, падпісаўшы "верноподданические адреса августейшему монарху" на халуйскую вернасць. Таму перад усім іншым трэба было калі не знішчыць, то адкінуць, ізаляваць гэту гнілую і гангрэнозную касту, якую вы называеце "дворянством", а мы – шляхтаю. Паўстанне мела быць чыста народным, а паны "дворяне"-шляхта на адрасах цару сама сабе падпісала прысуд і няхай цяпер гіне па ўласнай дурноце.

Удзел шляхты і памешчыкаў у паўстанні не толькі не быў патрэбны, але і шкодны. Люд сам павінен быў заваяваць сабе незалежнасць і запатрабаваць уласнасць у памешчыкаў. Як ласку, я дазваляў шляхце становіцца ў паўстанцкія шэрагі, аднак не ў сваіх паветах, а там, дзе іх, шляхціцаў, не ведаюць. Па праўдзе кажучы, я хацеў, каб люд велікадушна дараваў шляхце злачынствы мінулага, але калі б яна і загінула, яе сустрэла б толькі заслужаная кара, і краіна нічога б ад гэтага не страціла.

***Шалгуноў.*** Эти свои убеждения, подтверждающие вашу вину перед целым сословием народа, вы весьма театрально и выразительно подтвердили накануне самых больших столкновений нашей армии и ваших шаек. Поручик Гогель, напомните диктатору сцену из трагикомедии!

***Гогель*** *(зачытвае)*. "Францішка Далеўскага — члена Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы — не ўзрушылі ўмольныя просьбы і закліnанні Канстанціна Каліноўскага, які заклікаў яго, стоячы перад ім на каленях:

— Францішак, кінь шляхту, кінь гэтых недалугаў-эгаістаў! Яны трымаюцца толькі дзякуючы табе! Ты іх трымаеш, ты імі кіруеш, гэты статак бараноў не здолее ісці сам, ты ж адзін не дапускаеш паўстання, ты адзін тут стрымліваеш! Пераходзь да нас! Цудаў дабʼёмся, калі ты нас зразумееш, калі будзеш з намі! Тваёй галавы, тваёго сумлення нам не хапае!

Францішак маўчаў.

— Маўчыш! Значыць, не? Знаю цябе, не пойдзеш з намі, выходзіць — супраць нас! Калі так, дык ведай жа — я сам цябе тут у тваім доме сярод тваіх блізкіх прыкончу кінжалам!

— Зрабі так, калі думаеш, што гэта будзе карысна для справы, — адказаў ён спакойна.

Каліноўскі выбег."

***Каліноўскі.*** Вам трэба пацверджанне гэта факта?

***Шалгуноў.*** Да.

***Каліноўскі.*** Быў такі эпізод. Прасіў я Далеўскага на каленях, каб надаць паўстанню народны, сялянскі характар.

***Гогель.*** Позвольте! Далее Сераковская-Далевская, гворит: "Сёння, паводле большасці галасоў братоў з Каралеўства, што патрабуюць ахвяры, ён прайграў, знішчыў, разарваў уласнай рукою справу ўсяго свайго жыцця".

***Каліноўскі.*** А вось гэта, як сказаць, калі да гэтага трэба мой каментар... Я памру спакойна, бо дабіўся сваёй мэты: люд мае зямлю, а шляхты зменшылася напалову. Цяпер будзе ў нас народ — без розніцы шляхты і люду. І я не "разарваў уласнай рукою справу свайго жыцця". Расколіна паміж Беларуска-Літоўскай рэвалюцыяй і рэвалюцыяй каронай Польшчы адбылася не з-за нашай шляхты, а з-за канчатковых мэтаў абедзвюх рэвалюцый.

***Сямёнаў.*** А почему это вы, один из тех поляков, которые начали мятеж и здесь, и в Польше, заговорили о двух революциях.

***Каліноўскі.*** Гэта вы ўвесь час гаворыце пра мяцеж, а я толькі пра рэвалюцыі. І дарэчы заўважу, што вы дарэмна трымаеце мяне за паляка. Я ёсць самы натуральны беларус. Толькі становішча маё, як беларускага інтэлігента — двастае — я адчуваю сваю знітаванасць або тоеснасць з беларускім-ліцвінскім народам і ў той жа час духоўна — можа праз кніжную культуру — у многім звязаны з Польшчай або (у іншых выпадках) з Расіяй... Вы ж залічваеце мяне ў палякі, як католіка, залічваеце, як усіх беларусаў-католікаў і робіце, абʼяўляеце сваімі ворагамі. Так што, вызначайце мяне беларусам па маёй роднай мове. А то павесіце беларуса, а справаздачу начальству дасце, што павесілі паляка.

***Сямёнаў.*** Боитесь ошибки в истории?

***Каліноўскі.*** Ва ўсім паважаю дакладнасць.

***Гогель.*** Правительственные комиссары в Северо-Западный край обычно назначались Варшавой только из поляков. Почему же назначили вас, литвина, как вы себя называете.

***Каліноўскі.*** Відаць, прыйшоў Божы час...для ліцвінаў.

***Сямёнаў.*** Кстати, бандитский гимн "Божий час" не ваше детище?

***Каліноўскі.*** Акрамя гімна паўстанцаў "Божы час", вы маеце ўсе падставы лічыць маімі дзецішчамі акрамя "Мужыцкай праўды", яшчэ газеты "Сцяг свабоды" і "Голас з Літвы".

***Гогель.*** И антиправительственную "Гутарку двух суседзяў"?

***Каліноўскі.*** Не магу прэтэндаваць на чужое.

***Гогель.*** На чьё?

***Каліноўскі.*** Далі Бог не ведаю, хоць "гутарка" надзвычай змястоўная.

***Сямёнаў.*** В "Мужыцкай праўдзе" вы настойчиво лепили привлекательный образ передового, неординарного крестьянина, острого на слово, хорошо разбирающегося во многих сложностях мира и могущего "учыць іншых сваёй мужыцкай праўдзе".

***Каліноўскі.*** Калі вы гэта заўважылі, то мне, відаць, гэта ўдалося.

***Гогель.*** Признаете ли вы, подследственный, многочисленные факты, относительно притеснений и наказаний помещиков вот такими "просвещенными" мужичками только за то, что последние уклонялись от уплаты податей в пользу Литовского провинциального комитета?

***Каліноўскі.*** Прызнаю і пацвярджаю. Больш за тое, паведамляю следству, што я асабіста гаварыў і не аднойчы зборшчыкам падаткаў: калі адкормленыя бараны не хочуць, каб іх стрыглі, то трэба з іх здзіраць усю шкуру.

***Шалгуноў*** *(незадаволена)*. Господа члены комиссии, не будем мельчить в вопросах... Ваши саратники, подследственный, утверждают, что от августа 1863 года до арестования вы были живым духом кровавой литовской демократии, ее догорания.

***Каліноўскі.*** Я не стаў бы ні саратнікам, ні вам пярэчыць.

***Шалгуноў.*** Вы имели все возможности скрыться из Вильно...

***Каліноўскі.*** Мог, але ніколі не дапускаў думкі пра гэта, бо лічыў сваім абавязкам, як быў першым змоўшчыкам, так стану апошняй ахвярай Мураўёва.

***Шалгуноў.*** Правда ли то, что вы, сами преследуемы, присутствовали на каждой казни на Лукишках?

***Каліноўскі.*** Меў чалавечы абавязак жывым развітацца з яшчэ жывымі маімі сябрамі і паплечнікамі. Кожны барацьбіт добра ведае, што нядрэмныя маскоўскія мучыцелі схопяць яшчэ тысячы іншых ахвяраў, не палохаецца, а са спакойным, смелым чалом чакае царнованя вянца, пад які з гордасцю падставіць галаву, і выратаванню скрываўленай маці, як вернае дзіця, прысвяціць сваё жыццё. Колькі ж было ў нас высокіх прыкладаў такога роду, колькі ж разоў, гледзячы на экзекуцыі, мы былі прасякнуты любоўю і захапленнем святым спакоем і годнасцю пакутнікаў, якія радаваліся, што ім выпадае памерці за свабоду Айчыны! Хто ж забудзе гераічную смерць Мечыслава Дарманоўскага, Ігната Здановіча, Цітуса Далеўскага, Яна Банькоўскага, Людвіка Сухадольскага, Зыгмунта Падлеўскага, Зыгмунта Серакоўскага, Юзафа і Аляксандра Райкоўскіх, Карла Сіповіча, Юзафа Яблонскага...

***Шалгуноў.*** Хватит, Калиновский! Всех не перечислите.

***Каліноўскі.*** Усіх памяціць гісторыя — я маю на ўвазе не толькі герояў, але і іх катаў.

***Шалгуноў.*** Вы, видимо, размышляли о причинах поражения мятежа,а как в Польшче, так и здесь в Белорусско-Литовской провинции?..

***Каліноўскі.*** Гэта было не апошнім прадметам маіх роздумаў. Калі паўстанне зроблена пад добрую пару, яно ўзрушае і ажыўляе народ, не ў час — марнуе сілы кожнага, аслабляе... дый разводзіць страх і няверу ў справу нашую, у моц Божую.

***Шалгуноў.*** Кто же вас торопил: Англия, Франция, Герцен ударил в колокол?..

*(Працяг у наступных нумарах.)*



# Плакала скрыпка на ўскраіне Ліды

Не так даўно на гэтым лапіку Лідскай зямлі месцічы вырошчвалі бульбу, буракі, капусту. А некалькі раней тут была асобая зона: шматпакутную зямлю прасавала тэхніка вайскоўцаў. І мала хто ведаў, а тым больш гаварыў пра тое, што на поўночна-заходняй ускраіне горада пахаваны сотні яўрэяў Вільні і Ліды, па-зверску забітыя нямецкімі акупантамі. Ды ад тых ірвоў-магіл не засталося ніякага следу.

Жыццё і смерць, дабро і зло, мужнасць і баязлівасць – яны адвечна ідуць побач. Расправы фашыстаў і іх памагатых над яўрэямі ў Вільні пачаліся з першых дзён акупацыі. Пра гэта расказваў мне ў 1990-х гадах вядомы польскі літаратар Земавіт Фядэцкі, які нарадзіўся і вырас на Лідчыне, а вучыўся ў Віленскіх вучэльнях. Паводле сведчання пана Земавіта, яго бацькі, іншыя палякі дапамагалі яўрэям-віленьчукам перабрацца ў Ліду. А тут мясцовыя іўдзеі з дапамогай знаёмых, што працавалі ў нямецкай адміністрацыі, легалізавалі ўцекачоў. І апошнія лічыліся ў лідскім гета тутэйшымі жыхарамі. Але таямніца была здраджаная. І акупанты правялі бязлітасную аперацыю.

Крывавая трагедыя разыгралася 1 сакавіка 1942 года. Гэта быў халодна-калючы дзень, які ў народзе называюць слатою або слотай. На двары холад, агідны снег падаў уперамешку з тым жа даждом. І вось у гэткую непагадзь акупанты выгналі з гета на прылеглую плошчу сем тысяч вязняў, загадаўшы ім то стаяць, то класціся ў брудна-халоднае месіва. У той жа час нявольнікі праходзілі праз вароты, ля якіх здраднік паказваў пальцам на яўрэяў-віленчукоў. А калі скончылася злавесная "фільтрацыя" і вязням-лідчанам дазволілі вярнуцца ў гета, тыя сустрэліся з новым жахам: забітымі старымі і дзецьмі. Перабіты былі ўсе, хто не пайшоў на праверку. Трупы гэтых людзей, як і віленскіх уцекачоў, адвезлі на ўскраіну Ліды і звалілі ў рвы-магілы. Праз паўтара года, восенню 1943 года, там жа завяршылі жыццёвы шлях іншыя насельнікі лідскага гета.

Імклiва бягуць гады, дзесяцігоддзі. І на працягу многіх гадоў не ведала спакою душа лідчаніна **Зянона Бянько.** Як гэта так, што месца пахавання ахвяр стала агародамі! З сваім болем Зянон прыйшоў да старшыні мясцовай грамады яўрэяў Асі Савулкінай. Паляк і яўрэйка разам забілі ў званы трывогі і сумлення. І гэта пачулі ў Лідзе многія. Пры садзейнічанні мясцовай улады на сумнай ускраіне былі праведзены пошукавыя работы. Спецыялісты-салдаты адмысловага батальёна неўзабаве выявілі звыш 100 чалавечых парэшткаў. І многія рэчы побыту. Згодна з яўрэйскімі традыцыямі раскопкі спынілі. Каб не трывожыць прах іншых пакутнікаў.

Так перад Асяй Данілаўнай Савулкінай і яе добраахвотнымі памочнікамі паўстала святая мэта ўвекавечыць памяць ахвяр Халакосту. Амаль два гады доўжыліся бясконцыя турботы. Іх зразумелі і чым маглі дапамаглі многія людзі з добрымі сэрцамі. Увыніку на прапітаным крывёю ўчастку зямлі паўстаў велічны помнік з граніту, з зоркаю Дывыда. А выбіты надпіс сведчыць, што тут пахаваны яўрэі Ліды і Вільні, па-зверску знішчаныя нацыстамі і іх паслугачамі.



**Помнік на месцы захавання віленскіх і лідскіх яўрэяў на ўскраіне Ліды, адкрыты 13.08.2003 г. Скульптар Рычард Груша.**

Гэта была ўрачыстасць з сумам, горыччу і незагойным болем. На адкрыццё помніка прыйшлі многія лідчане. Разам з імі былі госці з Менска, іншых мясцін і, нават, з Ізраіля. У тужлівым роздуме прысутныя ўшанавалі памяць нявінных ахвяр фашызму. Прагучала шмат добрых слоў пра тых, хто прычыніўся да ўшанавання вязняў гета. Называліся імёны беларусаў і палякаў, рускіх і яўрэяў... Згаданых вышэй Зянона Бянько і Асі Савулкінай, супрацоўніцы ваенкамата Наталлі Вялавай, што спрыяла працы вайскоўцаў з пошукавай часткі, дырэктара прадпрыемства Лідскіх электрасетак Пятра Лабана, які выдзяліў кран для ўстаноўкі памятнага знака, многіх іншых. І амаль у кожнага ўдзельніка цырымоніі, выступоўца і проста прысутнага, былі на вуснах словы ўдзячнасці тутэйшаму мастаку-скульптару Рычарду Грушу. Гэта ён, таленавіты творца і шчодры мецэнат, падараваў яўрэйскай грамадзе і гораду адмысловы помнік, захапленне якім не хаваў на мітынгу славуты на Беларусі Леанід Левін, адзін з аўтараў мемарыялу Хатыні, лаўрэат Ленінскай прэміі, кіраўнік аб'яднання яўрэйскіх грамадаў у нашай краіне. Да месца будзе падкрэсліць, што памянёны помнік – чацвёрты дабрачынны праект Рычарда Баляслававіча ў гэтым годзе. Столькі ж падобных акцый ён ажыццявіў і летась.

Урачыстасць закончылася ўскладаннем да помніка кветак, кадзішам-малітвай і сумнай мелодыяй скрыпкі. Гэта быў плач па загінуўшых яўрэях, плач Ізраіля. Гэтае пачуццё разумелі і падзялялі ўсе прысутныя.

*Алесь Жалкоўскі.*



**Плача скрыпка ў руках лідскага кампазітара Міхаіла Дзвілянскага**

# Гярвяцкаму касцёлу 100 гадоў

У XIII-XIV стагоддзях Гярвяты ўваходзілі ў склад Гальшанскай зямлі. З гісторыі вядома, што Гярвяты, як маёнтак, упамінаюцца ў 1511 годзе. У 1526 годзе было заснавана мястэчка Гярвяты, пабудаваны касцёл. Ксёндз атрымаў права карыстацца безкарысна млынам мястэчка, лавіць рыбу, браць лес на будоўлю і паліва. Мястэчка часта аддавалася ў арэнду розным асобам. У канцы XVIII ст. яно перайшло да М. Шуазель дэ Гуф'е, а потым – М. Дамейку.



Шмат, што змянілася з таго часу.

У 1903 годзе пабудаваны новы касцёл неагатычкі, у гэтым годзе адзначалася 100 годдзе касцёла Св. Тройцы ў Гярвятах.

Да святкавання доўга рыхтаваліся, хоць рамонтныя работы не закончаны, але свята атрымалася, прыехала больш тысячы чалавек з Літвы, жадаючых было шмат, дамовіліся аб безвізавым перасячэнні мяжы. Каля касцёла растуць розныя экзатычныя дрэўцы, сапраўдны батанічны сад, можа другі ў краіне пасля Мосыра. У дзяцінстве я памятаю, як бабуля расказвала, што яна насіла цэглу на рыштаванні, пры будаўніцтве касцёла, вышыня 65 м. Здзіўляемся таленту нашых продкаў і іх "залатым рукам". А больш за ўсё радуе, што такая прыгажосць захавалася. Памятаюцца і школьная гады, калі бываць па службе ў касцёле забаранялася, маглі выключыць не толькі з камсамолу.

У Рымдзюнскім доме культуры дзейнічала фотавыстава вядомага краязнаўцы і фотамастака Астравеччыны Аляксандра Юркойця. На фатаграфіях партрэты жыхароў Гярвят, касцёл, ваколіцы і вядома ксендза Леаніда Нясцюка. Гэта яго намаганнямі з'явіўся такі батанічны цуд каля касцёла, на які прыязджаюць паглядзець нават з Літвы (была група літуаністаў пад кіраўніцтвам Алдоны Ракаўскене), сюды прыязджаюць і былыя вучні гярвяцкай школы. На свяце прысутнічалі біскуп Беларусі і Літвы Бачкіс, дырэктар дэпартаменту Літвы на справах нацыянальных меншасцяў Р. Пятраўскас, старшыня камітэту па справах рэлігій Рэспублікі Беларусь А. Бука, старшыня клуба "Гярвяты" Аўгуліс, старшыня літоўцаў Беларусі В. Тарнаўскайце і шмат іншых. Напрыканцы выступілі фальклорныя калектывы з Літвы.

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня.***

# Бітва пад Шапялевічамі

28 жніўня 1654 года войска гетмана Вялікага княства Літоўскага Я. Радзівіла дало жорсткі бой рускай арміі начале з ваяводам А. М. Трубяцкім пад вёскай Шапялевічы (цяпер Круглянскі раён Магілёўскай вобласці).

У гэтай бітве ваяры Вялікага княства Літоўскага страцілі шмат забітымі і ўзятымі ў палон. Немалыя страты панясла і рускае войска.

Нажаль зараз ні ў Шапялевічах, ні ў Круглым не хочуць ўспамінаць аб гэтай бітве. А на месцы баёў пад Шапялевічамі няма ніякага мемарыяльнага знака, які сведчыў бы пра мужнасць нашых прашчураў. Але ж гэта – наша гісторыя, і мы яе павінны ведаць. На мой погляд, было б добра ўстанавіць на месцы бітвы пад Шапялевічамі вялікі крыж з адпаведным надпісам.

Усяго ж, як сведчаць гісторыкі, ў вайне 1654-1667 гадоў паміж Рэччу Паспалітай, у склад якой уваходзіла і Вялікае княства Літоўскае, і Маскоўскай дзяржавай загінула каля 53% насельніцтва Беларусі, і помнікі падзеям той вайны павінны стаяць па ўсёй краіне.

*Святаслаў Маханёк.*

***Рэдактар Станіслаў Суднік***

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 18. 08. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 1946.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)